Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

# Газета для вас

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

10 верасня 1997 года
СЕРАДА
№ 48
Наш індэкс 63834

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### "Дарога да святыняў" з лампадай Духоўнасці

Сёлета ўрачыстасці з нагоды Дня беларускага пісьменства і друку прайшлі ў старажытным Нясвіжы. Папярэднічала іх адкрыццю навукова- творчая экспедыцыя „Дарога да святыняў". Яе ўдзельнікі даставілі ў Нясвіж сімвал свята – Непагасную лампаду Духоўнасці з Жыватворчым агнём ад труны Гасподняй.

Увесь час пасля мінулагодняга свята, якое праходзіла ў Навагрудку, сімвалічная лампада захоўвалася ў Свята-Духавым кафедральным саборы. З верасня пасля малебна-благаславення разам з навукова-творчай экспедыцыяй яна кранулася ў шлях па гарадах і вёсках рэспублікі.

Першым пунктам на маршруце экспедыцыі стаў Івацэвіцкі раён . Удзельнікі яе наведалі народны музей юнага партызана Колі Гойшыка, сустрэліся з ветэранамі вайны.

У праваслаўнай царкве, што будуецца, адбыўся ўрачысты малебен.

Вечарам у гарадскім Доме культуры грамадскасць райцэнтра сустракалася з членамі навукова-творчай экспедыцыі. Пісьменніцы Вольга Іпатава і Зінаіда Дудзюк, старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіву Дзмітрый Яцкевіч, начальнік абласнога ўпраўлення па друку Георгій Тамашэвіч, дырэктар Нацыянальнага архіву літаратуры і мастацтва Ганна Закартыка гаварылі аб набалелым: адраджэнні беларускай культуры, павагі да сваёй гісторыі, выхаванні любові да беларускага слова.

На наступны дзень экспедыцыя завітала ў Гошчава і Косава.

Навуковец Мікола Матрунчык, нібы падагульняючы вынікі сустрэч на івацэвіцкай зямлі, сказаў: „Мы хацелі, каб усім было цікава". Так яно і было. Запомняцца сустрэчы сваім мажорным акордам, складзеным са станоўчых эмоцый і пачуццяў.

### Канкурэнта няма. Фруктаў і гародніны таксама

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Пазваніла ў рэдакцыю жыхарка райцэнтра Г. Мількова і падзялілася сваімі праблемамі.

– Жыву ў двухпакаёвай кватэры з двума дзецьмі, – расказала яна. – Агарода ці дачы не маю. А нарыхтоўкі на зіму садавіны ды гародніны рабіць неабходна. Зімой жа ў магазіне таго ж агурка не дакупішся, калі ўжо зараз літровы іх слоік каштуе больш за 30 тысяч рублёў.

Прайшлася па рынку. Памідоры, кавуны ёсць, ды не па маёй кішэні іх цана. Зазірнула ў магазіны, думала там што-небудзь набуду. А цэны ў іх яшчэ большыя за рынкавыя. Ды і купляць у магазінах няма чаго: акрамя памідораў ды апельсінаў, капусты ды цыбулі нічога не прадаецца.

Міжволі ўспомніла, які багаты быў асартымент восеньскіх дароў прыроды ў магазінах Кудзінава. Пакупнікам прапаноўваліся і памідоры, і агуркі, і перац салодкі, і кавуны, і слівы, і вінаград, і персікі, і абрыкосы, і мандарыны. Цэны былі прымальныя, крыху сапсаваныя плады своечасова пераацэньваліся. Людзі многія, і я асабіста, з магазінных пакупак нават варэнні варылі. І навошта было Кудзінава знішчаць?

Так закончыла размову наша чытачка. І такое пытанне задаюць многія нашы чытачы. Як адказаць на яго? У. Кудзінаў быў вялікім канкурэнтам спажывецкаму гандлю, прымушаў яго работнікаў не толькі больш варушыцца, але і думаць, шукаць новыя шляхі і метады работы з пакупнікамі. Цяпер У. Кудзінава ў Івацэвічах няма, яго магазіны зачынены. „Тишь и благодать", як гаворыцца. Не трэба непакоіцца пра тое, што ў суседнім магазіне цэны на тавары ніжэйшыя. Нічога з пакупнікамі не зробіцца, купяць тое, што ёсць і па вызначаных цэнах. Як гаворыцца, быў У. Кудзінаў – былі праблемы, няма У. Кудзінава – няма праблем. Мудрае рашэнне, атрыманае ў спадчыну яшчэ ад бацькі Сталіна...

● УРАДЖАЙ-97





*ІВАЦЭВІЧЫ. Па-сялянску проста спрабуе на зуб сушанае зерне машыніст зернесушылкі калгаса „Зара" Іван Канстанцінавіч Жабінскі. Усе ўпэўнены, што ён скажа праўду, бо ўжо не першы год заняты на гэтай рабоце. Прадукцыйнасць польскай зернесушылкі – 50 тон збожжа ў змену. У тым, што ўсё абсталяванне спраўнае і працуе добра, вялікая заслуга машыніста І. К. Жабінскага.*

*Тут жа на зернетаку ў вёсцы Квасевічы, акрамя палявода, працуюць работнікі бухгалтэрыі калгаса „Зара", дапамагаюць прыводзіць у парадак дастаўленае ад камбайнаў жыта, ячмень, авёс. Работы тут хапае ўсім, бо ў калгасе сёлета вырашчаны добры ўраджай збожжавых – амаль па 32 цэнтнеры з гектара.*

*НА ЗДЫМКАХ: бухгалтар калгаса „Зара" Галіна Мікалаеўна Ганчарук; машыніст зернесушылкі Іван Канстанцінавіч Жабінскі.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

### За вітрынамі "Вясёлкі"

**БАРАНАВІЧЫ.** Дому гандлю „Вясёлка" пераваліла за 30 гадоў. Яго калектыў дабіўся ўстойлівага фінансавага становішча, славіцца выдатным абслугоўваннем пакупнікоў. Тут закончана карэнная рэканструкцыя залаў. Акрамя пакупак, у краме можна адрамантаваць гадзіннікі, вырабіць дублікаты новых ключоў за 10 хвілінаў, бясплатна памерыць артэрыяльны ціск, выпіць кубачак кавы.

Новы дырэктар Дома гандлю У. В. Шчарбук робіць стаўку не толькі на імпартныя вырабы – на баранавіцкія таксама, падаграваючы канкурэнцыю паміж прадпрыемствамі. Бо „Вясёлка" бярэ на рэалізацыю толькі першакласную прадукцыю.

### С. Лінг на Целяханшчыне

Ход ліквідацыі вынікаў чэрвеньскага ўрагану быў у цэнтры ўвагі прэм'ер-міністра Сяргея Лінга ў час рабочай паездкі ў Целяханскі лясгас, якую ён зрабіў напрыканцы мінулага тыдня.

Падчас наведвання прэм'ер-міністр сустракаўся з рабочымі, цікавіўся ўмовамі іх працы і быту, заработнай платай. Ён прапанаваў кіраўнікам больш удзяляць увагі не толькі маральным, але і матэрыяльным формам заахвочвання перадавікоў працы. Пры гэтым ён заявіў, што кіраўніцтва краіны і ў далейшым будзе пастаянна трымаць на кантролі ход ліквідацыі вынікаў урагану, аказваючы пры гэтым усякае садзейнічанне гэтым работам.

### Трэці Савецкі – апошні?

**БАРАНАВІЧЫ.** Па-сапраўднаму добраўпарадкаваннем горада мясцовыя ўлады заняліся гадоў 20 таму. Не такое ўжо старое паселішча з вясковым выглядам паступова ператварылася ў сучасны міні-мегаполіс. Пасёлак тэкстыльшчыкаў яўна пастарэў у архітэктурным плане, затое аброс так скверамі і паркамі, што пра яго можна сказаць: пасёлак-сад. Прыгажун Паўночны мікрараён глядзіцца ў Свяцілаўскае возера. Асфальтавае пакрыццё паступова выцясняе ўжо нешматлікія грунтавыя вуліцы.

У самым цэнтры горада ёсць невялікі завулак – 3-ці Савецкі, пра які, здаецца, камунальныя і дарожныя службы забыліся. Некалі пакладзены асфальт тут патрэскаўся, месцамі яго наогул няма. І дабіваюць пакрыццё шматлікія аўтамабілі, што нахабна ныраюць пад знак „Уезд забаронены". Вось бы дзе даішнікам разгуляцца! На малюсенькім завулку размясціліся дзевяць камерцыйных прадпрыемстваў, арганізацый і гандлёвых кропак, некалькі жылых дамоў. Дзяржава і мясцовыя Саветы здымаюць немалыя падаткі з гэтага пятачка, ды і фірмы багатыя. Маглі б скінуцца і залатаць завулак, па якому бегалі нашы прапрабабулі і дзядулі.

3-і Савецкі – гістарычны куток Баранавічаў, і ён достойны большай увагі.

### Згарэў пасля бітвы

**БЯРОЗА.** Непадалёк ад вёскі Пясчанка па дарозе з поля на калгасны двор згарэў камбайн „Дон-1500". Прычынай пажару паслужыла няспраўная гідрапомпа.

**ПАДПІСКА – 97**

Падпісацца на "Газету для вас" на 4 квартал можна ў любым аддзяленні сувязі Івацэвіцкага, Баранавіцкага і Бярозаўскага раёнаў да 25 чысла кожнага месяца.

Кошт падпіскі **6.000** рублёў на месяц.

Наш падпісны індэкс **63834**

• ПРАЗ ЦЕРНІ — У РЫНАК

# ЯК РЭФАРМАВАЦЬ СЕЛЬСКУЮ ГАСПАДАРКУ

## ЛІСТ З НЯВОЛІ

**Пісьмо прыйшло з г. Жодзіна, установы УЖ 15/із - 8. З нецярплівасцю ўскрылі мы яго. Думалася: чалавек просіць дапамогі. Аднак тое, што мы прачыталі, прымусіла не толькі з сумам сціснуцца сэрцы, але і задумацца. У пісьме напісана:**

*— Паважаная рэдакцыя!*

*Знаходзячыся часова ў ізаляцыі ад грамадства, я пастаянна сачу за прапаноўваемымі ўрадам эканамічнымі пераўтварэннямі ў нашай рэспубліцы. Прашу вас надрукаваць мой артыкул, прысвечаны пытанням рэарганізацыі сельскай гаспадаркі. Рэалізацыя маіх прапаноў у жыццё прывядзе, упэўнены, да паляпшэння матэрыяльнага дабрабыту народа.*

*Загаддзя вам удзячны*
*Уладзімір КУДЗІНАЎ.*

**Вы запытаецеся, аб чым мы задумаліся? Напэўна, аб тым, што і вы, паважаныя чытачы. Калі дзяржава ўтрымлівае за кратамі чалавека, які нават там думае аб тым, як дапамагчы народу гэтай дзяржавы, то нешта не тое робіцца ў нас...**

ІСНУЮЧЫЯ цяпер эканамічныя метады вядзення сельскай гаспадаркі не задавальняюць ні дзяржаву, ні селяніна таму, што дзяржава штогод дае датацыю не на вытворчасць асобных відаў сельгаспрадукцыі, а на існаванне ўсёй гаспадаркі (калгаса). Пры гэтым сумы штогадовых датацый пастаянна павялічваюцца, таму што адбываецца штогадовае памяншэнне абаротных сродкаў гаспадарак, павялічваецца знос асноўных фондаў. Гэта прыводзіць да павелічэння затрат на аднаўленне і ўтрыманне асноўных фондаў і, урэшце рэшт, да дарагоўлі затратаў на вытворчасць прадукцыі.

Меншая частка гаспадарак яшчэ застаецца "на плаву", таму што ім раней была пабудавана за кошт дзяржавы вытворчая і сацыяльная база, а ў перыяд гіперінфляцыі яны бралі крэдыты. Цяпер гэтыя гаспадаркі дзякуючы асабістым адносінам кіраўніцтва з вышэйстаячымі чыноўнікамі атрымліваюць розныя датацыйныя выплаты з пазабюджэтных фондаў і маюць, як правіла, свабодную рэалізацыю сваёй прадукцыі. Гэта дазваляе ім яшчэ мець станоўчы фінансавы рэзультат.

Асноўная ж частка гаспадарак, якая цяпер не мае моцнай вытворчай базы і пры гэтым не карыстаецца ніякімі прывілеямі, усё больш залазіць у даўгі. Гэта вядзе да павелічэння колькасці гаспадарак, якія ўжо становяцца неплацежаздольнымі, а ў бліжэйшым будучым — банкрутамі.

Існуючы парадак абавязковага продажу дзяржаве сельгаспрадукцыі па фінансавых закупачных цэнах не задавальняе ні гаспадаркі, ні пакупніка таму, што пакуль прадукцыя дойдзе да апошняга, то яе кошт павялічыцца ў 2—3 разы ў параўнанні з закупачнай цаною. Пры гэтым насельніцтва не адчувае на бюджэце сваіх сем'яў карысць ад нізкіх закупачных цэнаў, таму што набывае прадукты па існуючых цэнах рынку.

Селянін, які працуе ў гаспадарцы, наогул не адчувае на бюджэце сваёй сям'і карысці ні ад новых пераўтварэнняў, ні ад існуючых метадаў эканамічнага гаспадарання, бо зарплату атрымлівае малую і са спазненнем. Гэта не дае яму магчымасці матэрыяльна забяспечыць сваю сям'ю. Селянін вымушаны ўтрымліваць уласную падсобную гаспадарку, а кармы для яе "браць" у калгасе, выкарыстоўваць у асабістых мэтах яго машыны і абсталяванне.

Адміністрацыйны кантроль за вядзеннем сельскагаспадарчай вытворчасці з боку выканаўчай улады не дае эканамічнага выніку, таму што асноўная задача кіраўніцтва гаспадарак зводзіцца да таго, каб любым чынам даваць справаздачы ў раён, не зніжаючы іх паказчыкаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Страх кіраўніцтва гаспадарак, што іх у любы момант могуць пазбавіць пасадаў, вядзе да безініцыятыўнасці, нежадання займацца рэалізацыяй вытворчых праграмаў, разлічаных на працяглы перыяд.

Цяпер наш урад не ведае, што далей рабіць з сельскагаспадарчай вытворчасцю. З аднаго боку, ён хоча захаваць буйнатаварную вытворчасць, а з другога — не мае грошай, каб штогод яго падтрымліваць. Прапануемае ўрадам акцыяніраванне сельскай гаспадаркі з выдзяленнем работнікам пая ў залежнасці ад стажу работы не прывядзе да жаданага выніку, бо гэта не вядзе да змены ўласніка. Нязменным тут застаецца і паўсядзённае ўмяшанне выканаўчай улады ў дзейнасць акцыянернага прадпрыемства. І надалей будзе аказвацца селяніну "дапамога" ў выглядзе "каштоўных" указанняў: як, дзе і калі сеяць, колькі надойваць малака ад каровы і г. д.

Калгас — гэта гаспадарка з калектыўнай формай уласнасці, і акцыяніраванне яе не адмяняе, а толькі вызначае долю кожнага работніка. У рэальнасці работнік не з'яўляецца гаспадаром сваёй долі ўласнасці, таму і адносіны да працы не зменім. З-за гэтага і адносіны інвестараў і банкаў да сельгасвытворчасці таксама не зменяцца. Таму праграма ўрада прывядзе ў недалёкім будучым калгасную сістэму да поўнага краху па ўсёй рэспубліцы. Банкрутамі стануць і тыя гаспадаркі, якія сёння яшчэ маюць станоўчы фінансавы вынік.

Ці ёсць выйсце са склаўшагася становішча? Я лічу — ёсць. Патрэбна змена ўласніка і пераарыентацыя асноўнай вырошчваемай прадукцыі сельскай гаспадаркі. Неабходна ўсю уласнасць калгасаў прызнаць уласнасцю дзяржавы. Чаму? Таму што цяпер нельга сацыяльна справядліва падзяліць асноўныя фонды і абаротныя сродкі гаспадарак па паях – многія работнікі, якія іх стваралі, ужо памерлі, памянялі месцажыхарства і месца работы. Нельга і выдзеліць долю дзяржавы, якая штогод давала гаспадаркам датацыі.

Далей. Трэба правесці ацэнку кошту асноўных фондаў і абаротных сродкаў гаспадарак і раздаць іх жадаючым займацца сельскагаспадарчай вытворчасцю ў доўг з адтэрміноўкай выплаты ад 5 да 10 год. Пры гэтым неабходна прадаставіць работнікам права самастойнага вядзення сельгасработ, буйной сярэдняй і дробнатаварнай вытворчасці, права выбару відаў вырошчваемай прадукцыі. Замацаваўшы за кожным уласнікам у бестэрміновае карыстанне зямлю, трэба вызначыць тэрміны яе выкупу ўласнікамі. Гэта прывядзе да стварэння ў нашай рэспубліцы не толькі буйных, але і сярэдніх, і дробных гаспадарак. Кожная з іх будзе ствараца на базе новай, набытай уласнасці грамадзян. Пры выбары асноўнай вытворчасці яна будзе арыентавацца на вырошчванне найбольш эканамічна выгаднай для яе прадукцыі. Будзе зацікаўленасць кожнага ўласніка ў канчатковым выніку сваёй працы, зменяцца яго адносіны да работы, да ўласнасці, захаванасці і рэалізацыі прадукцыі. Адпадзе неабходнасць дзяржаўнай падтрымкі сельгаспадарак у выглядзе датацый.

Ва ўмовах нашай рэспублікі найбольш выгадна займацца гадоўляй свіней, таму што пры вытворчасці свініны адбываецца хуткая акупаемасць капітальных укладанняў і асноўных сродкаў, хуткае ўзнаўленне жывёлы. Акрамя таго, гадоўля свіней да забойнай вагі займае значна меншы перыяд, чым гадоўля буйной рагатай жывёлы. Свініна карыстаецца большым попытам у пакупнікоў, чым ялавічына. Гэтыя перавагі вытворчасці і рэалізацыі свініны ўжо пацверджаны наяўным вопытам такой работы ў краінах Заходняй Еўропы.

Калі ўрад рэспублікі з пачатку наступнага года пачне праводзіць эканамічныя пераўтварэнні ў сельскай гаспадарцы з заменай уласніка, то пачынаць іх трэба з гаспадарак-банкрутаў. Такім чынам будзе пастаўлена надзейная заслона развалу калгаснай сістэмы, пачнецца планамерная рэарганізацыя канкрэтных гаспадарак. Рэзка зменяцца і адносіны банкаў да крэдытавання сельскай гаспадаркі, бо пад кожны крэдыт будзе існаваць рэальны залог уласнасці. Вызваленыя ад датацый сельскай гаспадаркі бюджэтныя сродкі, будуць накіроўвацца на павелічэнне пенсій і дапамог інвалідам і пенсіянерам.

Пры такой рэарганізацыі сельскай гаспадаркі і наяўнасці эканамічна выгаднага расійскага рынку збыту ўжо ў бліжэйшыя 2—3 гады адбудзецца павелічэнне вытворчасці мяса ў нашай рэспубліцы. Пры гэтым будуць поўнасцю задзейнічаны магутнасці мясаперапрацоўчай і камбікормавай прамысловасці, што ў сваю чаргу павялічыць працоўную занятасць насельніцтва, яго дабрабыт.

Аднак прапануемыя пераўтварэнні немагчымы цяпер без змянення фарміравання выканаўчай улады і змянення яе функцый і задач. Кіраўнікі выканаўчай улады ўсіх узроўняў (горад, раён, вобласць) павінны выбірацца на свае пасады насельніцтвам. Асноўнай задачай выканаўчай улады павінна быць сацыяльная і прававая абарона насельніцтва і паляпшэнне яго дабрабыту.

Вядома, боязь кіраўнікоў абласцей, раёнаў, гарадоў, гаспадарак страціць свае пасады і ўладу будзе штурхаць іх на перашкоду рэарганізацыі сельскай гаспадаркі са зменай уласніка. Яны ўсяляк будуць даказваць грамадству, што распад калгаснай сістэмы накліча ўсеагульную бяду, будуць пераконваць у немагчымасці вытворчасці сельгаспрадукцыі без буйнатаварных гаспадарак. Але гэта яшчэ раз пацвердзіць тое, што чыноўнікі перш за ўсё клапоцяцца аб сваім дабрабыце і, змагаючыся за яго, гатовы ахвяраваць усім, у тым ліку інтарэсамі народа. Селянін добра ведае, чым, перш за ўсё, займаецца прывезены з горада кіраўнік: па-першае, будуе сабе дом, па-другое, купляе сабе машыну, па-трэцяе, забяспечвае пасадамі сваякоў, сяброў і знаёмых...

***Уладзімір КУДЗІНАЎ.***

● ТАКАЯ ВОТ ЖИЗНЬ

# С протянутой рукой

***Иван Матвеевич Зуй — малолетний узник фашистского лагеря — рассказывает:***

***— Мне четыре года. Просторная деревенская изба. Большой стол. Вокруг него — сосновые, добротные, выскобленные до желтизны, лавки. Мама убирается возле печи. Я стою на лавке. В одной руке — кружка с парным молоком. В другой — ломоть свежего, теплого хлеба. Мой обед.***

Я уминаю душистую мякоть, запивая молоком. Смотрю в окно. Там отец. Запихнул последний сноп пшеницы, необмолоченный, в хлев. Закрыл дверь. Пошел со двора. Под мамины беззлобные напоминания: "Сядь, Ваня, за стол, прольёш", продолжаю блуждать взглядом по деревьям с желтеющей листвой, широкой грунтовой улице, домом, выглядывающим на нее. Они, мне кажется, провожают сердитыми окнами-глазами, откуда ни возьмись, несколько телег с вооруженными людьми. Кони приближались... Не понимая сути, я съёжился, сердечко сжалось в тревоге...

Немцы в Полонечке, нашей старинной деревне Барановичского района, уже хозяйничали давно, используя для всяких "грязных" работ (поборы, побои, угон молодежи в Германию, аресты, расстрелы) предателей-полицаев...Вот несколько таких полицаев появилось за окном, когда телеги стали возле нашего дома. Немецкие солдаты шли сзади.

"Гости ..." — мелькнуло в моем испуганном сознании или я это прошептал машинально, ставя пустую кружку на стол.

С грохотом и треском распахнулась дверь:

— Зуй? — огромный черный дядька швырнул ногой лавку набок, к стене.

— Здрасце в хаце, здрастце.., — сполотнев, пролепетала мать.

Черный с размаху ударил кулаком в лицо матери. Она пролетела мимо меня и упала под образком. Другой "черный", такими запечатлились в моей головке образы полицаев, размахнулся винтовкой, целя ей в лицо. Первый смахнул меня в угол. Я закричал.

— Хальт! — заорал немец, и тыкая пальцем в маму и меня, что-то залопотал по-своему. Я понял только слово "партизанка". Полицаи вытолкали нас на улицу, не дав одеться как следует.

...Много позднее, повзрослев, я узнал, что нас арестовали за то, что мамин брат был в партизанах. За это наказывали жесточайше. Потому пребывание родни в партизанах тщательно скрывалось. Но сейчас я не об этом, не о войне в лесах, нападениях на гарнизоны, а о том, как я, четырехлетний деревенский белорус, очутился за колючей проволокой лагеря смерти в деревне Колдычево и что из этого вышло. Постараюсь быть объективным и пусть меня не обессудят люди, если что не так скажу.

Передо мной сидел почти седой, морщинистый лицом, но ладно сбитый мужчина. Иван Зуй, бывший малолетний узник немецких лагерей, теперь "сердечник", на часок вышедший из Барановичской районной больницы на встречу с журналистом. Живет он здесь рядом, с городом, в деревне Анисимовичи, в 15—16 километрах от Колдычево по прямой и сорока — от родины Полонечки. Поводом для встречи послужило получение им немецкого пособия, как малолетнему узнику. Я слушаю **Ивана Матвеевича..**

— Сосед нас заложил, что родня партизану. Боялись они мести. Лютовали так, что даже немцы удивлялись и иногда сдерживали... "Черные" дядьки с факелами суетились у сарая с необмолоченным хлебом в снопах. Вдруг один из соседей подходит к переводчику и говорит, мол, он, то есть мой отец, должен ему, соседу, вот столько снопов. И показывает рукой. Немец выслушал и потребовал немедленно забрать долг, заставив полицаев выгрузить половину снопов из сарая. Как только сосед увез хлеб, полыхнули изба, сарай, какие-то постройки, которых в старых белорусских деревнях много, Нас увели в Колдычево, неодетых, голодных. А на улице — осень. Отец, говорят, когда вернулся на пепелище, головой стукался о черный дымоход печки: пропала семья, пропал дом. Но нашлись люди, подсказали, что мы очевидно в Колдычево, а почти половину хлеба сосед спас, под предлогом долга.

— В лагере — жуть. Постоянные проверки. А это — построения за построением. Стариков, женщин, нас — мал-мала-меньше, что гороху. Хватаем матерей за юбки:

— Мама, кушать хочу! А мать — подзатыльник: — Тихо, немец услышит, а то, не дай Бог, наш предатель-полицай из охраны.

— Как-то немцы, с женами, пришли нас "смотреть". Одна дама с собачкой, как сейчас понимаю, домашней. К щеке прижмет, ласкается, Я засмотрелся. Дама что-то "белькнула" по-немецки, и протянула мне собачонку. Та спрыгнула на землю и цап меня за ногу. Я — в крик. Немка оледенела. Охрана кинулась к нам. Толпа смешалась. Нас с мамой затерли в середину. Переполох в лагере. Хозяйка собачки охает. Полицаи нас охаживают плетьями и дубинками, пинают ногами. В зону ворвались и немцы-охранники. Нас загнали в бараки. Началось следствие. Выдергивали в буквальном смысле этого слова первого попавшего под руку, избивали и отправляли в "медпункт". " Медики лечили" просто — в печь, которая дымила над Колдычево день и ночь.

Год и два месяца пробыл в Колдычево Иван Матвеевич Зуй четырехлетним карапузом. За колючей проволокой с высоким электротоком, под надзором дрессированных овчарок и бешеных собак — полицейских, ежедневно рискуя попасть то на "опыты" где-небудь в скрытую лабораторию, то в печь. Повезло. Выжил. Выдержало детское сердечко все эти ужасы. Когда советские войска заставили немцев отступать, а их холуев-полицаев разбежаться, мы, оставшиеся в живых, разбрелись по домам, по близлежащим вёскам. Ваня Зуй с отцом и матерью оказался в Анисимовичах. Дальше - работа в городе, семья. Сейчас — в местном колхозе имени Мичурина. Подлечивает сердце.

— И вот недавно позвали нас, бывших немецких малолетних узников, в город. Съехались. Ну, здесь начались речи о войне, о партизанах, о немцах. О последних — как-то сдержанно.

А дальше — и вовсе чудеса пошли. Оказывается, нам компенсацию немцы привезли. Я вышел. Немец, высокий, худой, спокойно так, с улыбкой руку пожал, марки ихние дал и пакет с одеждой — полный набор. Да ещё постельные принадлежности. Хм. Ну, я, конечно, спокоен. "Спасибо", и так далее. Осмотрел немца. Ничего себе, похож на тех, у проволоки, у печей Колдычевских, где сжигали нас, коренных жителей. На нашей родине, безвинных, какие-то издалека пришедшие... Били нас, двух-четырехлетних, палками, "кусали" комнатными собачками... Похож! Ещё как! Только этот — не с автоматом, не в каске, не с овчаркой на поводке, а с марками и подарком. Глаза голубые, спокойные, добродушные. Чего уж ерепениться, дают — бери. А что-то вот здесь, в груди, и вот здесь, в голове, жжет... Почему?.. По чьей вине тогда я в четыре года, в теплой деревенской избе, ладно сбитой, быть может, прадедом-белорусом, стоял на выскобленной матерью сосновой лавке, у крепкого, на сто лет, стола, выпил последнюю в моем детстве кружку парного молока с душистым, теплым хлебом... Почему я, сейчас, в неполных шестьдесят лет, должен брать подачку-компенсацию из рук вот этого представителя, как говорят, умной нации. Добродушного, участливого, спокойного, уверенного в себе, в хорошей жизни своих детей? Что-то здесь не так...

...Да, Иван Матвеевич. Если мы в зрелые годы вынуждены спасаться, надеясь на гуманитарную помощь, компенсации, сгорая от стыда, то действительно ЧТО-ТО не так в нашей многострадальной Беларуси. НЕ ТАК, хотя нас убеждают в обратном.

Тогда, в 1941—45 годах, даже за колючей проволокой, перед пылающей печью лагеря смерти нас не поставили на колени. А сейчас поставили с протянутой рукой. Потому и жжет... И не только Вас, Иван Матвеевич.

***Петр НАГНИБЕДА.***

# Для дома, для семьи, для души...

● ЖИТЕЙСКАЯ СИТУАЦИЯ

## Женщина в церкви

**Как одеться женщине, идущей в церковь? Обязательно ли покрывать голову платком и какой должна быть прическа? Уместно ли пользоваться косметикой?**

Этими вопросами вряд ли терзаются наши бабушки — но как быть молодым или, так сказать, еще не старым?

Первое, что нужно знать, — пришедший на богослужение в соответствии с древней традицией должен быть в храме от начала до окончания службы. Опоздывать или уйти раньше времени допустимо лишь в случае крайней нужды. Духовно опытные люди не советуют уходить из храма, даже если у вас закружится или заболит голова. Присядьте (скамейка есть в каждом храме) или, на худой конец, выйдите в притвор, крыльцо — только чтобы слышать молитвы и пение.

Голова должна быть покрыта — не обязательно платком в псевдорусском стиле. Пусть это будет вязаная шапочка, берет, шляпка, что душе угодно. Распускать волосы по плечам в церкви не пристало (в старину это было неприлично и дома вне спальни), — заплетите косу или уберите ваши прекрасные волосы в прическу. Грим по нашим временам не преступление, главное, чтобы он не был ярким. А вот помада исключена напрочь: сами подумайте о красных пятнах на иконах, Кресте, Евангелии да и на руке священника — какое уж тут "благоговейное лобызание"!

По церковным канонам (правилам святых апостолов и вселенских соборов) "мужчине недолжно одеваться в женскую одежду, ни женщине в мужскую" — так что придется ваши шелковые шальвары, тканые золотом, шорты и линялые "треники" надеть по другому поводу.

Платье или блузка не должны быть слишком открыты на груди, а нательный крест ни в храме, ни где-нибудь еще не носите "навыпуск", на то он и нательный!

Войдя в храм, постарайтесь сразу купить свечи и оплатить требу (поминание, панихиду, молебен) — это избавит вас от необходимости расхаживать потом взад-вперёд, отвлекая молящихся.На литургии по канонам женщины должны молчать, да и вообще в церкви разговаривать не принято.

Категорически запрещено женщине входить в храм в "красные дни" ее месячного календаря. Многие сегодня, увы, даже этого не знают.

И последнее, **что касается неутомимых бабушек** (митрополит Сурожский Антоний как-то в шутку назвал их "наши православные ведьмы"). Прислушивайтесь к их советам и замечаниям, не принимая близко к сердцу резкость тона. Они "блюдут порядок" — а кроткого и ласкового блюстителя порядка в наши дни вообще редко где встретишь...

● ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

# ХОТИТЕ ДОЖИТЬ ДО 100 ЛЕТ?

*Нет ничего проще.*

Для этого:

— Не оставайтесь долго в постели. Большинство столетних людей всю жизнь вставали рано.
— Не ешьте много. Полнота сокращает жизнь.
— С оптимизмом смотрите в будущее.
— Оставайтесь активным — особенно когда уйдете на пенсию.
— Принимайте как можно меньше лекарств.
— Не тревожьтесь о здоровье.
— Не курите. Держитесь подальше от сигарет.
— Обязательно имейте хобби.
— Пейте побольше жидкости, лучше всего воду.
— Ежедневно ешьте банан (они полезнее яблок).
— Наслаждайтесь жизнью.
— Снимайте плохое настроение физической работой.
— Не пейте крепкий кофе, да и чай - только слабый.
— Чтобы снять усталость, принимайте получасовую ванну.
— Не ложитесь спать в одни и те же часы. Время от времени поздно ночью смотрите фильмы по телевизору, ходите в гости и сами приглашайте друзей.
— Не экономьте дома свет. Лампочка в 150 ватт сделает ярче и вашу жизнь.
— Очень важно иметь хороших друзей. Они действуют как прививка против стресса.

***Разумеется, все советы немецких медиков не относятся к тем, кто до ста лет по каким-то личным причинам дожить не хочет.***

● УЛЫБНИТЕСЬ

*— Я так и знала, что и в этом тебя обведут вокруг пальца. Куда ты меня привёз? И это объект обмена? Ни окон, ни метража!*

*— Успокойся и потерпи минуту! Это ещё только лифт!*

* * *

*К адвокату приходит просительница и заявляет:*

*— Помогите мне добиться развода.*

*— У вас есть веская причина?*

*— Да, я замужем.*

* * *

*В суде свидетельницу спрашивают:*

*— Сколько вам лет?*

*— Надо подсчитать. Когда я вышла замуж, мне было 20 лет, а мужу — 40, то есть я была вдвое моложе его. Сейчас ему 70 — значит, мне 35!*

* * *

*— Послушай, как ты выносишь семейную жизнь — жена всё время ворчит, ругается,гремит посудой?*

*— Это пустяки. Хуже, когда у неё хорошее настроение — она поёт.*

● СЛУЖБА 01

# Гарацъ лясы, гарацъ тарфянікі

Штогод у лясах і на тарфяніках Брэстчыны ад неасцярожнага абыходжання з агнём грамадзян здараецца болей за тысячу пажараў. Яны, як вядома, наносяць непапраўны ўрон прыродзе. Згараюць тысячы кубаметраў драўніны, ягаднікі, знішчаюцца жыхары лясоў і балот, на працягу некалькіх гадоў на абпаленай глебе нічога не расце. Тушэнне ж лясных і тарфяных пажараў – гэта цяжкая праца многіх людзей, прыцягненне вялікай колькасці тэхнікі. Найбольш складаная сітуацыя ў цяперашні час склалася на тэрыторыі суседніх Ляхавіцкага, Ганцавіцкага і Пінскага раёнаў. Аднак не выключэнне і наш раён. Так, у апошнія дні жніўня зарэгістраваны пажары на тарфяніку паблізу в. Дабрынёва на землях калгаса „Даманава", ва ўрочышчы „Сежныя" калгаса „Любішчыцы" і іншых месцах. Двойчы адзначаны ўзгаранні лесу вакол вадаёма, што паблізу в. Яглевічы. Увогуле, тыя лясы, што размешчаны паблізу месцаў масавага адпачынку, церпяць ад пажараў даволі часта.

Нядаўна гарэў лес на плошчы ў 3 га паблізу в. Магіліцы, які належыць Баранавіцкаму лясгасу. Гарэлі тарфянікі каля вёскі Дабромысль (калгас „40 год Кастрычніка"), паблізу Горталя (калгас імя Куйбышава), кустоўе на тарфяной глебе ў 6-ці км ад в. Аброва (тэрыторыя калгаса імя Чапаева) і шэрагу іншых мясцін. Ужо неаднойчы браўся гарэць лес у межах целяханскай зоны, які моцна пацярпеў падчас чэрвеньскага ўрагану. На шчасце, усе выпадкі ўзгарання былі своечасова выяўлены і ліквідаваны, але тушыць агонь у лясным завале вельмі складана і цяжка. Калі гарыць лес, відовішча болей чым жахлівае.

На тэрыторыі нашага раёна ўсталявалася і трымаецца працяглы час сухое, без дажджоў надвор'е. У гэтых умовах варта яшчэ раз прыгадаць асноўныя патрабаванні правілаў пажарнай бяспекі, якія штодня дыктуе нам само жыццё.

Шаноўныя грамадзяне! Не курыце і не карыстайцеся адкрытым агнём у пажаранебяспечных месцах, не дапускайце выпальвання сухой травы і пожні, развядзення кастроў. Пазбягайце ўезду на тэрыторыю тарфянікаў, каб не адбылося загарання торфу ці пожні ад іскраў з выхлапной трубы рухавіка. Не забудзьцеся аб мерах пажарнай бяспекі і на паляванні.

Памятайце, што сухі торф, мох, трава і лісце – лёгкія на загаранне матэрыялы і адной кінутай запалкі, непатушанага кастра ці акурка дастаткова, каб у сухое, спякотнае надвор'е ўзнік пажар.

Калі ж вы выявіце пажар у лесе ці на тарфяніку, неадкладна паведамляйце аб ім у пажарную службу па тэл. 01 ці ў бліжэйшую лясную гаспадарку і прыступіце да яго ліквідацыі самастойна, да прыбыцця да месца здарэння адпаведных службаў.

**В. МОЛАШ,**
**ст. супрацоўнік ЦНІПБ АВПС-6 Івацэвіцкага раёна.**

● ПОСТ ДАІ

## „Увага, дзеці!"

*Такая назва аперацыі, якая праходзіла ў раёне з 22 жніўня па 10 верасня. Мэта яе: прыцягнуць увагу ўсіх дзяцей і ў першую чаргу школьнікаў да захавання правілаў дарожнага руху. Бо не сакрэт, яшчэ многа здарэнняў на вуліцах і дарогах адбываецца іменна па віне вучняў. Так, за восем месяцаў гэтага года зарэгістравана дзевяць дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам дзяцей. Двое з іх загінулі, восем паранена.*

*За час аперацыі, якая сёння заканчваецца, на шчасце, сур'ёзных здарэнняў па віне школьнікаў не адбылося. Але дробныя парушэнні правілаў дарожнага руху, якія былі выяўлены, маглі прывесці да няшчасця.*

*Таму і ў далейшым ад усіх дзяцей, што выходзяць на вуліцы і дарогі, патрабуюцца ўважлівасць і асцярожнасць, абавязковае выкананне правілаў дарожнага руху.*

***У. КВАША,***
***старшы дзяржаўтаінспектар Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.***

● СТОП-КАДР



*Ногі цяжкія пад старасць сівую*
*Не хочуць трымаць – іх як ні прасі...*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

● КРЫМІНАЛ

## ЖАНЧЫНА АПАЗНАНА

У нашай газеце за 20 жніўня была змешчана інфармацыя пад загалоўкам „І на смерць – з „Івацэвіцкім веснікам", дзе гаварылася аб тым, што ў Бярозаўскім раёне ля дарогі Першамайск-Асаўцы, дзе працавалі камбайны, быў знойдзены труп невядомай жанчыны.

Сваю маці З. І. Куратнік апазнала яе чатырнаццацігадовая дачка. Жанчына жыла ў Івацэвічах, па вуліцы Гойшыка. Нідзе не працавала, п'янствавала, што, відаць, і прывяло да трагедыі. Следства аб забойстве яшчэ працягваецца.

**К. ДЗЯМЧУК.**



**КУПОН** для бясплатнай прыватнай аб'явы

Тэкст аб'явы: ______________________

______________________

______________________

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца): ______________________

● *Продаётся дом с хозяйственными постройками в д.Ходорки. Звоните в рабочее время по телефону 2-33-71 (г.Ивацевичи).*

● ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

# САХАРНЫЙ ДИАБЕТ

Сахарный диабет без преувеличения занимает одну из драматических страниц мировой медицины. Самая ранняя инвалидность, высокая смертность (3-е место после сердечно-сосудистых заболеваний и злокачественных новообразований) определили эту болезнь в качестве первых приоритетов национальных систем здравоохранения.

Количество больных диабетом в мире превысило 100 млн. человек. Ежегодно их ряды увеличиваются на 5-7%. В Ивацевичском районе таким недугом поражено более 560 человек.

Какие же факторы способствуют развитию сахарного диабета? Это наследственная предрасположенность, ожирение (избыток веса),гипертония, заболевания сердца,поджелудочной железы, печени, алкоголь. Часто причиной, провоцирующей переход скрытого диабета в явный, могут быть травмы, хирургические операции, нервные потрясения, острые инфекционные заболевания, постоянные нарушения питания.

Для начала сахарного диабета характерно появление сильной, трудноутолимой жажды. Больной начинает много пить жидкости (до 6-7 литров в сутки), часто и обильно мочится, теряя вес. У него снижается работоспособность, появляется сильная слабость, может беспокоить постоянный зуд кожи, гнойниковые поражения кожи (фурункулы), трудно поддающиеся обычному лечению.

При несвоевременном обращении к врачу и несвоевременном лечении заболевание может привести к коме с потерей сознания. При этом содержание сахара в крови достигает высоких цифр, а в моче появляется ацетон. При длительном течении диабета (если больной не соблюдает правильное питание, игнорирует лечение) развиваются тяжёлые осложнения диабета со стороны разных систем и органов. Нарушение зрения возникает через 5-10 лет от начала заболевания, часто намного раньше. Слепота у больных сахарным диабетом наступает в 25 раз чаще, чем у остального населения. Более 10% больных сахарным диабетом – инвалиды по зрению.

Долгое время остаётся незамеченным поражение почек. Жалобы у больных появляются уже на поздней стадии заболевания, в связи с чем помочь больному не всегда возможно из-за наступивших необратимых изменений в почках. Больные часто погибают в молодом возрасте. В этом году у нас погибли от почечной недостаточности две молодые женщины.

Страдают очень часто сосуды нижних конечностей, нарушается чувствительность, появляются боли при ходьбе. Нарушение кровообращения, небольшие нарушения целостности кожных покровов, присоединение инфекции и у больных развиваются гнойные осложнения. Ампутации нижних конечностей у больных диабетом встречаются в 15 раз чаще, чем у остального населения.

Поэтому главным в предупреждении тяжёлых осложнений является длительная компенсация (поддержание сахара в крови на нормальном уровне). Для этого нужен постоянный контроль за сахаром в крови и мочи.

В отличии от других хронических заболеваний диабетом можно управлять и организм будет работать в режиме нормального обмена.

Очень важным условием для нормализации обмена является правильное питание. Нужно в течение дня равномерно распределять приём пищи. Это поможет регулировать содержание глюкозы в крови, нельзя пропускать основные приёмы пищи. Инъекции инсулина и приём противодиабетических таблеток проводить в одно и тоже время. В пищу употреблять меньше сладкого, хлеба грубого помола, есть каждый день овощи, нежирные сорта рыбы и птицы, пить не более 0,5 литра молока в день, не злоупотреблять алкоголем.

Лучше чувствовать себя помогут вам физические упражнения. Это способствует улучшению кровообращения, укрепляет сердце и лёгкие, позволяет снизить кровяное давление. При выполнении физических упражнений „снижаются" калории и это вместе с нормальным питанием помогает добиться желаемого веса. Сон и воздух у больных сахарным диабетом должны быть полноценными. Особенно важен уход за ступнями ног (мыть тёплой водой, постоянно проверять, нет ли трещин, порезов, носить удобную мягкую обувь). Категорически запрещается больным парить ноги, пользоваться компрессами или грелками для ног, ходить босиком, пользоваться ножом или лезвием для обрезания кожи на ногах.

Если вы будете выполнять эти простые и доступные советы, можете рассчитывать на радость жизни и долголетие, несмотря на диабет.

**А. ЖИГАРЬ,**
**врач-эндокринолог Ивацевичской районной больницы.**

**Суседзі і сябры выказваюць глыбокае спачуванне Русаку Леаніду Мікалаевічу з прычыны напаткаўшага яго гора – смерці маці МАРЫІ ФРАНЦАЎНЫ.**

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.

Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 8 верасня ў 14.00.

Заснавальнікі: У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.



Тыраж 1.000 экз.
Заказ № 2084.